# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

## ПРАЦОЎНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

Том 1, 2012



# THE FIRST INTERNARIONAL CONGRESS OF BELARUSIAN STUDIES

## WORKING PAPERS

Volume 1, 2012

ISBN 978-9955-12-804-5 (ONLINE)
ISBN 978-9955-12-803-8

Vytautas Magnus University

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі

Працоўныя матэрыялы

Том 1 (2012)

# The First International Congress of Belarusian Studies

Working Papers

Volume 1 (2012)

Vytautas Magnus University Press
Kaunas, Lithuania, 2011

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

*Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі адбыўся 23-25 верасня 2011 года ў Коўна (Літва)*



**Стыль-рэдуктура і карэктура**
Вольга Гапеева (беларуская і англійская мова)
Стэфанія Каліноўская (руская мова)
Максім Александровіч (англійская мова)
Томаш Блашчак (польская мова)

**Вёрстка і макет вокладкі**
Дзмітры Ісаеў

**Заснавальнікі і партнёры**
Інстытут палітычных даследаванняў "Палітычная сфера" (Беларусь)
Універсітэт Вітаўта Вялікага (Літва)
Інстытут Вялікага Княства Літоўскага (Літва)

Міжнародны Кансорцыум "ЕўраБеларусь" (Беларусь)
Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (Беларусь)
Інтэрнэт-часопіс "Новая Эўропа" (Беларусь)
Сайт экспертнай супольнасці "Наше мнение" (Беларусь)
Часопіс "Arche" (Беларусь)
Еўрапейскі Цэнтр па пытаннях меншасцяў (Германія)
Інтэрнэт-выданне "BelarusDigest" (Вялікабрытанія)
Праграма "Лятучы ўніверсітэт" (Беларусь)
Фонд імя Конрада Адэнаўэра (Германія)
Агенцыя гуманітарных тэхналогій/Цэнтр сацыяльных інавацый (Беларусь)
Цэнтр усходняй палітыкі (Літва)

Выданне падрыхтаванае дзякуючы падтрымцы *Фонду ім. Конрада Адэнаўэра*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

*The First International Congress of Belarusian Studies was held on September 23-25, 2011 in Kaunas (Lithuania).*



**Proof-reading**
Volha Hapiejeva (Belarusian and English)
Stefanija Kalinoŭskaja (Russian)
Maksim Alieksandrovič (English)
Tomasz Błaszczyk (Polish)

**Design and Layout**
Dzmitry Isajeŭ

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Arche* Journal (Belarus)
The European Centre for Minority Issues (Germany)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus);
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus);
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

The volume is published with support of *Konrad Adenauer Stiftung*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
International Congress of Belarusian Studies
Tarptautinis Baltarusijos tyrimų kongresas

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі быў заснаваны 6 кастрычніка 2010 года ў г. Коўна (Літва) на сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і літоўскай акадэмічнай і экспертнай супольнасці.

Кангрэс ініцыяваны як штогадовая сустрэча беларускіх і замежных навукоўцаў, экспертаў, аналітыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх і дзяржаўных інстытуцый, якія займаюцца даследаваннем Беларусі.

**Місія Кангрэса** – развіццё супольнасці навукоўцаў, аналітыкаў і экспертаў, а таксама спрыянне больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічным і грамадскім асяродку краіны, рэгіёну і свету.

Кангрэс бачыцца месцам прэзентацыі вынікаў працы навукоўцаў і экспертаў на працягу года. Акрамя гэтага, правядзенне Кангрэса з'яўляецца выдатнай магчымасцю для распрацоўкі новых жыццяздольных даследчых і грамадскіх праектаў, абмену меркаваннямі і ідэямі, усталявання нефармальных кантактаў. Кангрэс дазволіць сістэматызаваць веды пра Беларусь, а таксама заахвоціць практыку ўзаемнага супрацоўніцтва і камунікацыі.

Кангрэс разлічаны на ўдзел шырокага кола спецыялістаў з Беларусі, Еўрапейскага Саюза, Расіі, ЗША, Украіны і іншых краінаў свету.

Праца Кангрэса спалучае традыцыйныя пасяджэнні з арганізацыяй экспертных панэляў і грамадскіх дыскусій па актуальным тэмам беларускай палітыкі, культуры, грамадства, рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва.

The International Congress of Belarusian Studies was founded at the meeting of Belarusian and Lithuanian scholars and experts in October 6, 2010 in Kaunas, Lithuania.

The Congress was initiated as an annual meeting of Belarusian and foreign scholars, experts, analysts and representatives of civil society and government institutions, which are involved in studying Belarus.

**The Congress' mission** is to promote a deeper understanding of Belarus in academic and civil communities of the country, region and world.

The Congress aims to become a place for presentation of outcomes of scholarly and expert activities, produced throughout the year. In addition, the Congress is an excellent opportunity to develop new research and community projects, to exchange views and ideas and to establish informal contacts.

The Congress combines traditional academic activities with expert panels and public discussions on topical issues of Belarusian politics, culture, society, regional and international cooperation.

2010 m. spalio 6 d. Kaune (Lietuva) susirinkę baltarusių ir lietuvių mokslininkai ir ekspertai nutarė surengti tarptautinį Baltarusijos tyrimų kongresą.

Tokie kongresai turėjo tapti kasmetiniais baltarusių ir kitų šalių mokslininkų, ekspertų, analitikų, visuomeninių organizacijų ir valstybinių institucijų atstovų, besidominčių Baltarusija bei atliekančių jos tyrimus, suvažiavimais.

**Kongreso misija** – išvystyti mokslininkų, analitikų ir ekspertų visuomenę, siekti geresnio Baltarusijos supratimo tarp akademinių ir visuomeninių centrų šalyje, regione ir pasaulyje.

Kongresas turėtų tapti mokslininkų ir ekspertų per metus atliktų darbų rezultatų pristatymo vieta. Taipogi kongresas gali būti puikia vieta, kur gimtų nauji tyrimų ar visuomeniniai projektai, būtų keičiamasi idėjomis ar užmezgami nauji neformalūs kontaktai.

Kongreso darbą nutarta organizuoti sukuriant įvairias ekspertų ir diskusijų darbo grupes, kuriose būtų gvildenamos aktualios baltarusiškos politikos, kultūros, visuomenės tyrimų, regioninio ir tarptautinio bendradarbiavimo temos.

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58

# СУЧАСНАЯ РЭЛІГІЙНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ: САВЕЦКАЯ СПАДЧЫНА

ВІКТАР АДЗІНОЧАНКА

***Анатацыя:*** Трансфармацыя рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі разглядаецца як сістэмны працэс. Існуюць два аспекты гэтай трансфармацыі: палітычны і ўласна рэлігійны. Разглядаецца спецыфіка рэлігійнасці насельніцтва Беларусі. Робіцца наступная выснова: трасфармацыя рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі зараз у значнай ступені залежыць ад палітычных фактараў.

***Ключавыя словы:*** трансфармацыя, рэлігійная сітуацыя, рэлігійнасць, палітычныя фактары.

# THE CURRENT RELIGIOUS SITUATION IN BELARUS: SOVIET HERITAGE

***Abstract:*** Transformation of the religious situation in Belarus is considered as a systemic process. There are two aspects of this transformation: a political and a religious one. The specificity of the Belarusian population's religiosity is analysed. The following conclusion is made: transformation of the religious situation in Belarus nowadays is highly dependent on the political factors.

***Keywords:*** Transformation, Religious Situation, Religiosity, Political Changes.

Калі параўноўваць сучасную Беларусь з іншымі былымі савецкімі рэспублікамі, можна з ўпэўненасцю сцвярджаць, што элементы савецкай спадчыны захаваліся тут у найбольшай ступені. Гэта вызначаецца, па-першае, тым, што для значнай часткі насельніцтва захоўваецца прывабнасць лозунгаў справядлівасці, раўнапраўя і ўпэўненасці ў будучым, якія абвяшчаліся ў сацыялістычным грамадстве, прычым, у адпаведнасці са старымі схемамі лічыцца, што гэтыя даброты павінна забяспечыць дзяржава (Титаренко, 2004: 129). Па-другое, шмат якія элементы савецкай спадчыны на Беларусі захоўваюцца дзякуючы мэтанакіраванай і даволі жорсткай палітыцы ўлад ў іх імкненні кантраляваць ўсе сферы грамадскага жыцця. Трансфармацыйныя працэсы на Беларусі адбываюцца вельмі цяжка, мы сапраўды з'яўляемся постсавецкім грамадствам, кіраўніцтва краіны больш арыентуецца на старыя схемы паводзін, на тое, што было раней, а не на новыя формы грамадскага жыцця. У рэлігійнай сферы гэта праяўляецца ў тым, што ўлады спрабуюць пабудаваць узаемаадносіны з рэлігійнымі арганізацыямі па старых савецкіх узорах жорсткага і паслядоўнага кантролю, які ажыццяўляецца ў асноўным праз заканадаўства, безумоўна, адмаўляючыся пры гэтым ад старых атэістычных установак. Рэлігія (перадусім, праваслаўе) выкарыстоўваецца цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі ў сваіх ідэалагічных і палітычных мэтах.

Але падзеі, якія адбыліся ў Беларусі пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў (перш за ўсё ў палітычнай і эканамічнай сферах), з відавочнасцю сведчаць, што савецкая спадчына не можа служыць падставай для далейшага развіцця, ад яе трэба адмаўляцца. Праблема ў тым, што кіраўніцтва краіны гэтаму ўсімі сіламі супраціўляецца. Таму для сучаснай Беларусі характэрна менавіта сітуацыя "пост", калі старыя схемы дзейнасці ўжо страцілі сваю кіраўнічую ролю, а новыя яшчэ ўяўляюцца даволі неакрэслена.

Спецыфіка грамадскай сітуацыі сучаснай Беларусі заключаецца ў тым, што кантроль дзяржавы над грамадскім і рэлігійным жыццём набыў гіпертрафіраваныя формы. Фактычна, падаўляецца любая незалежная ініцыятыва, што з'яўляецца прычынай напружанасці ў грамадстве і запавольвання тэмпаў яго развіцця.

Трансфармацыю рэлігійнай сітуацыі на Беларусі трэба разглядаць у кантэксце агульнай сістэмнай трансфармацыі грамадства. На наш погляд, тут трэба вылучыць два ўзаемазвязаныя, але істотна розныя працэсы: па-першае, гэта адмаўленне ад элементаў савецкай спадчыны, па-другое, фарміраванне сістэмы незалежнага беларускага грамадства. Апошняе для Беларусі па меры яе гістарычнага развіцця як незалежнай краіны робіцца ўсё больш актуальным. Пасля разбурэння

ў пачатку 1990-х гадоў велізарнага палітычнага ўтварэння, якое называлася “Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік”, і ўзнікнення на яго месцы незалежных краін, для кожнай з іх востра паўстала пытанне: на якіх асновах будавацца далей. Трэба было вызначыць элементы структуравання будучай дзейнасці, у тым ліку і ў сферы культуры. Зараз у сацыяльных і гуманітарных навуках “агульнапрызнана, што культура з’яўляецца моцным фактарам, які вызначае паводзіны сацыяльных суб’ектаў у розных сферах іх жыццядзейнасці” (Кобяк, 2011: 110). Відавочна, што розніца ў шляхах развіцця былых савецкіх рэспублік шмат у чым была абумоўлена гістарычнай і культурнай спадчынай кожнай з іх. Раней лічылася, што ёсць адзіны савецкі народ, з агульнай ментальнасцю, палітычным і эканамічным ладам. Сёння мы бачым, наколькі адрозніваюцца паміж сабой, напрыклад, краіны Прыбалтыкі і Сярэдняй Азіі. Шмат ў чым гэта абумоўлена рэлігійнай традыцыяй той ці іншай краіны. Таксама ўсё больш відавочнай робіцца розніца ў гістарычным і рэлігійным развіцці паміж трыма славянскімі краінамі: Беларуссю, Украінай і Расіяй. На наш погляд, выяўленне і аналіз гэтай розніцы для той сітуацыі, у якой зараз знаходзіцца Беларусь, з’яўляецца вельмі карысным.

Трэба адзначыць, што пераходны перыяд, які зараз перажывае Беларусь, найбольш яскрава праяўляецца менавіта ў рэлігійнай сферы. З аднаго боку, адбыліся істотныя змены ў стаўленні ўлад да рэлігіі: адмаўленне ад палітыкі дзяржаўнага атэізму і наладжванне дыялогу з рэлігійнымі арганізацыямі. Прыкладна з 1989 года ў Беларусі адбываецца паступовае адраджэнне рэлігіі. Галоўным аб’ектыўным паказчыкам гэтага з’яўляецца павелічэнне колькасці зарэгістраваных рэлігійных арганізацый. За перыяд з 1988 па 2011 гады яна ўзрасла больш чым у 4 (з 765 да 3162), а рэлігійных накірункаў – у 3 разы (Старостенко, 2011: 221, 266). Паступова наладжваюцца нармальныя ўзаемаадносіны паміж дзяржаўнымі органамі і рэлігійнымі арганізацыямі. Напрыклад, зараз пры Апараце Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Беларусі дзейнічае міжканфесійны савет, які збіраецца некалькі разоў на год.

З другога боку, у цэлым можна канстатаваць пастаянныя спробы ўладаў устанавіць жорсткі кантроль над рэлігійным жыццём у краіне. Ён асабліва ўзмацніўся пасля прыняцця ў 2002 годзе новага закона “Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях”. Гэты закон выклікаў крытыку з боку амаль усіх рэлігійных кірункаў, якія зараз існуюць на Беларусі, а таксама праваабарончых арганізацый.

Сутнасць гэтага закона (як, дарэчы, і іншых заканадаўчых актаў Беларусі, якія тычацца рэлігіі) зводзіцца, па-першае, да спроб кан-

тролю над рэлігійным жыццём у краіне, а, па-другое, да арыентацыі на рэлігійную сітуацыю ў Расіі. Так, у Прэамбуле ўзгадваюцца наступныя рэлігійныя кірункі: праваслаўе, каталіцтва, іудаізм, іслам і лютэранства. Зусім не ўзгадваюцца большасць пратэстанцкіх напрамкаў, якія зараз дзейнічаюць на Беларусі, і яны апынуліся быццам бы па-за межамі беларускай духоўнай і культурнай традыцыі. Але гэтыя кірункі на Беларусі даволі шматколькасныя. Другое месца па колькасці зарэгістраваных суполак у нашай краіне на пачатак 2011 года пасля праваслаўных (1545 суполак) займаюць хрысціяне веры евангельскай (505 суполак), далей ідуць рыма-каталікі (475 суполак) і евангельскія хрысціяне-баптысты (275 суполак) (Религиозная ситуация…).

Таксама ў сваёй рэлігійнай палітыцы ўлады не ўлічваюць тое, што Беларусь – традыцыйна поліканфесійная краіна. На яе тэрыторыі разам мірна жылі прадстаўнікі розных рэлігій. У нас не было сур'ёзных сутыкненняў, а таксама праследаў на рэлігійнай глебе. Гэтым абумоўлена і традыцыйная верацярпімасць беларусаў. Трэба падкрэсліць, што рэлігійная традыцыя на Беларусі вельмі істотна адрозніваецца ад рэлігійнай традыцыі ў Расіі, дзе традыцыйна пераважае праваслаўе (Осипов, 2008: 242).

Гаворачы аб тэндэнцыях развіцця рэлігійнай сітуацыі ў нашай краіне, трэба адзначыць, што тыя канцэпцыі XIX стагоддзя, у якіх сцвярджалася непазбежнасць знікнення ў будучым рэлігіі, не пацвердзіліся. Гэта тычыцца як марксісцкай ідэі аб тым, што па меры паляпшэння жыцця асноўнай масы насельніцтва і рэальным вырашэнні існых праблем, знікне неабходнасць у ілюзорным суцяшэнні, якое дае рэлігія, так і канцэпцыі А. Конта, які вылучаў у гісторыі чалавецтва тры стадыі: рэлігійную, метафізічную і навуковую, і звязваў адміранне рэлігіі з паступовым развіццём чалавечых ведаў (Конт, 2011: 10). Уплыў рэлігіі ў еўрапейскай культуры і цяпер застаецца даволі вялікім, але паступова зніжаецца колькасць людзей, якія прымаюць удзел у рэлігійным жыцці. Вельмі высокі ўзровень рэлігійнасці ў суседняй з намі Польшчы – 95 % насельніцтва лічаць сябе каталікамі (Страны мира, 2010: 98). Традыцыйна рэлігійнай з'яўляецца самая заможная краіна свету – ЗША (Страны мира, 2010: 548). У Беларусі таксама назіраецца відавочная тэндэнцыя павялічэння колькасці вернікаў і рэлігійных арганізацыі, якая, хутчэй за ўсё, будзе працягвацца і далей.

На наш погляд, трансфармацыя рэлігійнай сітуацыі ў сучаснай Беларусі будзе абумоўлена, перадусім, унутрырэлігійнымі прычынамі, бо кожная рэлігія ўяўляе з сябе сістэмнае ўтварэнне, якое мае сваю логіку развіцця, і ў залежнасці ад яе займае адпаведнае месца ў грамадстве. Зараз на Беларусі паступова адбываецца развіццё міжрэлігійнага

дыялогу, асноўным ініцыятарам якога з’яўляецца Беларуская праваслаўная царква. На ўзроўні рэспубліканскага кіраўніцтва наладжаны вельмі добрыя ўзаемаадносіны паміж праваслаўнымі і каталікамі, ажыццяўляецца ўзаемадзеянне з евангельскімі хрысціянамі-баптыстамі. Па ініцыятыве Беларускай праваслаўнай царквы прайшлі тры міжнародныя канферэнцыі, прысвечаныя міжрэлігійнаму дыялогу: “Дыялог хрысціянства і ісламу ва ўмовах глабалізацыі” (2007 г.), “Хрысцыянска-іудзейскі дыялог: рэлігійныя каштоўнасці як аснова ўзаемапавагі ў грамадзянскай супольнасці” (2009 г.), “Праваслаўна-каталіцкі дыялог: хрысціянскія этычныя каштоўнасці як унёсак у сацыяльнае жыццё Еўропы” (2011 г.).

Фактарам, які, на наш погляд, адмоўна ўплывае на развіццё рэлігійнай сітуацыі на Беларусі, з’яўляецца надзвычай моцны кантроль дзяржавы. Пакуль што менавіта яна шмат у чым вызначае рэлігійную сітуацыю на макраўзроўні.

Можна канстатаваць, што сучасная рэлігійная сітуацыя ў Беларусі не з’яўляецца ўстойлівай і штучна падтрымліваецца ўладамі. На наш погляд, з палітычнымі зменамі істотна зменіцца ў нашай краіне і рэлігійная сітуацыя.

### *Бібліяграфія*

1. Титаренко, Л. Г. (2004). *Ценностный мир современного белорусского общества: гендерный аспект.* Минск: БГУ.

2. Кобяк, О. В. (2011). “Ценностные ориентации в труде как факторы экономического поведения жителей Беларуси”, Социология, № 1: 110-115.

3. Старостенко, В. В. (2011). *Религия и свобода совести в Беларуси: очерки истории.* Могилев: УО "МГУ им А.А. Кулешова".

4. Религиозная ситуация и государственно-конфессиональные отношения в 2010 году. URL (доступ 14.09.2011): http://www.belarus21.by/ru/main_menu/religion /sotr/ new _url_1648988856

5. Осипов, Ю. С. (ред.) (2008). “Россия”, в Большая Российская энциклопедия: В 30 т. Москва: Большая Российская энциклопедия.

6. Конт, О. (2011). Дух позитивной философии: Слово о положительном мышлении. Москва: Книжный дом “ЛИБРОКОМ”.

7. Страны мира (2010). Современный справочник. Москва: ООО “Дом славянской книги”.

# МІНУЛАЕ І ЯГО ІНТЭРПРЭТАЦЫІ Ў НЯМЕЦКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫІ

ТАЦЦЯНА АСТРОЎСКАЯ

***Анатацыя:*** Артыкул апісвае складаны шлях нямецкага грамадства да прынцыпаў цярпімасці і адказнасці ў гістарычнай адукацыі; разглядае меры, прынятыя нямецкім урадам, а таксама спосабы, якімі яны былі рэалізаваныя на практыцы, то бок у падручніках па гісторыі. Аўтар даводзіць чаму і якім чынам нямецкі досвед можа быць карысным для беларускай гістарычнай адукацыі.

***Ключавыя словы:*** гісторыя, адукацыя, гістарычная памяць, адказнасць, публічнае абмеркаванне.

## THE PAST AND ITS INTERPRETATIONS IN GERMAN AND BELARUSIAN SYSTEMS OF EDUCATION

***Abstract:*** The article describes the complicated path of German society towards the principles of tolerance and responsibility in history education. It also examines the measures taken by the German government and the methods of their implementation in practice, that is, in history textbooks. The author considers why and in what way the German experience can be useful for Belarusian history education.

***Keywords:*** History, Education, Historical Memory, Responsibility, Public Discussion.

Гістарычны досвед беларускай і нямецкай нацый у XX ст. звязаны агульнасцю калектыўных месцаў памяці, такіх як досвед таталітарызму, Другая сусветная вайна і яе наступствы, па-дзел тэрыторыі і этнічнай супольнасці на часткі, якія аказваюцца падпарадкаванымі розным, і нават супрацьлеглым, палітычным сілам. Аднак, нягледзячы на падобнасць гістарычных абставін, іх перажыванне і пераадольванне – у тым ліку праз выкладанне і інтэрпрэтацыю мінулага – у беларускай і нямецкай адукацыі розняцца вельмі істотна. Не зважаючы на складаныя гістарычныя абставіны, за адносна кароткі прамежак часу, нямецкае грамадства з таталітарнага ператварылася ў адно з самых адкрытых і дэмакратычных у свеце. Сёння гэты прыклад гарантавання правоў чалавека і павагі да рознасці ў любых яе праявах можа быць вельмі карысным для Беларусі.

Для нямецкай нацыі шлях да асэнсавання мінулага, прызнання віны і адказнасці быў доўгім і складаным. Яго сутнасць у некаторай ступені можа быць раскрытая праз канцэпт “непераадоленага мінулага” (die unbewältigte Vergangenheit), пашыраны ў нямецкай гістарыяграфіі. Непераадоленае, непрамоўленае мінулае можа даць пра сябе знаць самым нечаканым і непрыемным чынам.

Выбітны нямецкі інтэлектуал, філосаф, псіхолаг Карл Ясперс (Jaspers, 1987: 31, 53) у сваіх лекцыях 1945–1946 гг. першым паставіў пытанне віны і адказнасці: “Мы павінны высветліць пытанне пра нямецкую віну. Гэта датычыцца нас саміх. Гэта робіцца незалежна ад папрокаў звонку, хаця мы можам карыстацца ім як люстэркам. ... Мы павінны ўзяць на сябе віну нашых бацькоў. Мы ўсе вінаватыя ў тым, што ў духоўных умовах нямецкай нацыі існавала магчымасць такога рэжыму”.

У 1956 г. прафесар Гётынгенскага ўніверсітэта Герман Хеймпель пісаў пра існуючае ў сучасным яму грамадстве жаданне “забыцца на гітлерызм”, і таму Хеймпель таксама паказвае на неабходнасць адмовіцца ад апраўдання і пераадолець непераадольнае мінулае. Аднак папярэджанням асобных інтэлектуалаў у той час надавалася мала ўвагі.

У снежні 1959 г. адбываецца падзея, якая становіцца яскравым сведчаннем для нямецкага грамадства, што непераадоленае мінулае вяртаецца, траўма нагадвае пра сябе: у Кёльне неанацыстамі былі апаганены толькі што адбудаваная сінагога і помнік ахвярам нацыянал-сацыялізму. Акт вандалізму стаў увасабленнем рэальнасці пагрозы вяртання нацыянал-сацыялізму. Гэта быў знак, які прымусіў нямецкі ўрад і нямецкае грамадства не проста падумаць, але дзейнічаць, каб вяртанне жахлівых памылак нядаўняга мінулага было немагчымым. Адзначым некаторыя меры, якія былі прынятыя ў сферы адукацыі і сталіся эфектыўнымі:

- Ва ўсіх навучальных установах уводзілася дысцыпліна "палітычная адукацыя", пазней пачынаюць ствараецца фонды і інстытуты палітычнай адукацыі (Bundeszentrale für politische Bildung), якія выдаюць літаратуру для настаўнікаў, для працы з моладдзю і арганізацыі семінараў. Прычым літаратура, якая выдаецца, прысвечаная не столькі структуры нямецкай палітычнай сістэмы, колькі таму, як яна функцыянуе на практыцы, вырашае канкрэтныя праблемы. Да прыкладу, вырашае праблему адрознасці паміж Усходняй і Заходняй Германіяй ці асвятляе гісторыю і культуру нацыянальных меншасцяў, якія жывуць у Германіі.

- Спосабы выкладання цяжкіх і праблематычных старонак гісторыі, таталітарызму ці халакосту сталіся прадметам працяглых публічных дыскусій. Яшчэ ў 1962 г. былі выдадзеныя "Рэкамендацыі па выкладанню таталітарызму ў школах". У 1978 г. Міністэрствы адукацыі ініцыявалі антыфашысцкія цырымоніі камемарацыі, ушанавання. Да прыкладу, стала адзначацца дата 20 ліпеня 1944 г., дзень калі антынацысцкая група "Kreisau Kreise" ажыццявіла замах на А. Гітлера. Гэты дзень стаў святкавацца як дзень супраціўлення нацысцкаму рэжыму.

- Дэцэнтралізацыя выдавецтва падручнікаў. У Германіі кожная зямля карыстаецца асобнымі падручнікамі (але ўсе яны праходзяць праверку на дзяржаўным узроўні). Таксама калектыў школы можа выбіраць, якія падручнікі яны будуць выкарыстоўваць у навучальным працэсе (зразумела, з тых, што прайшлі апрабацыю). Даследчыкі пішуць (гл. Braham, 1987), што тэксты пастаянна паляпшаюцца, і сучасныя тэксты распавядаюць пра ахвяраў і трагедыі мінулага з вялікай уважлівасцю і асцярожнасцю. Звычайна калектыў аўтараў падручнікаў складаецца не толькі з універсітэцкай прафесуры, але і з практыкуючых педагогаў, што дае магчымасць шматбаковага разумення праблемы.

- Публічная дыскусія. Акрамя Міністэрства культуры, якое непасрэдна займаецца рэкамендацыяй падручнікаў да ўжывання ў школах, існуюць грамадскія і навуковыя ўстановы (Інстытут сучаснай гісторыі, Нямецкі камітэт па пытаннях адукацыйнай сістэмы і інш.), якія вывучаюць, як выкладаецца і як павінна выкладацца мінулае. Прычым вывучаецца не толькі свой, але і замежны досвед, існуе, напрыклад, Георг-Экерт Інстытут для міжнародных даследаванняў у галіне школьных падручнікаў (гл. Georg-Eckert-Institut…).

Што датычыцца зместу падручнікаў, то бок таго, як рэалізуюцца прынцыпы выкладання гісторыі на практыцы, то і тут мы заўважым значныя адрозненні:

- Па-першае, аўтары нямецкіх падручнікаў адмовіліся ад памкнення распавесці гісторыю ў яе цэласнасці, лагічнай паслядоўнасці, ці такой

якая яна была на самой справе. Ужо ў назвах падручнікаў, напрыклад: "Гісторыя і падзеі" ("Geschichte und Geschehen"), "Знаходкі і паразуменне" (Entdecken und Verstehen), "Людзі ў іх часы" ("Menschen in Ihrem Zeit") заўважаны іншы падыход да мінулага.

- Па-другое, падручнікі надаюць увагу, найперш, асобе і яе паўсядзённым практыкам, напрыклад, школьнікі знаёмяцца з лістамі нямецкіх салдат да бацькоў.

- Важнае месца ў навучальных тэкстах займае тэма адказнасці. Фашызм разглядаецца як з’ява, якая была абумоўлена шматлікі фактарамі, прычынамі: нестабільнасцю дэмакратычнай сістэмы ў Веймарскай рэспубліцы, нежаданнем кіраўнікоў Веймарскай рэспублікі супраціўляцца прыходу Гітлера да ўлады, агульным настроем у грамадстве. Прапануецца, напрыклад, разабрацца ў тым, чаму некаторыя дзяржавы здолелі застацца дэмакратычнымі, а іншыя – не, задумацца над тым, чаму дыктатура стала магчымай.

- Яшчэ адно ўменне, якое павінны выпрацоўваць падручнікі – прызнанне памылак. Напрыклад, выкрываецца варварскі характар Другой сусветнай вайны. Настаўніку прапаноўваецца надзяляць увагу таму, якой была гэта вайна для іншых народаў – палякаў, рускіх і беларусаў. Уважліва разглядаюцца і абмяркоўваюцца Халакост і генацыд мірнага насельніцтва, і тое, чаму яны сталіся магчымымі. Важнымі таксама з’яўляюцца факты супраціўлення рэжыму як прыклады адказнасці і грамадзянскай мужнасці.

Спосабы ўзаемадзеяння з гісторыяй, якія маглі б быць карыснымі для беларускай адукацыі:

Па-першае, адказнасць. Адказнасць за сваіх дзедаў і бацькоў, адказнасць за гісторыю, усведамленне таго, што таталітарная ці аўтарытарная сістэма ў грамадстве не можа існаваць без маўклівай згоды кожнага з нас, што ўсе мы адказныя за гісторыю.

Па-другое, павага да сябе. Трэба прызнаць, што нас ёсць за што паважаць. У беларускіх падручніках амаль няма прыкладаў актыўнай дзейнасці насельніцтва, супраціўлення рэжыму. Рэальных гісторый пра звычайных людзей, з якімі кожны мог бы сябе атаясамліваць (у адрозненне ад Герояў Вялікай Айчыннай, якія наўрад ці могуць быць прыкладамі ў мірны час).

Па-трэцяе, павага да іншых. У падручніках вельмі мала інфармацыі пра суседнія народы – украінцаў, латышоў, літоўцаў. Школьнікам амаль не распавядаюць пра яўрэйскае насельніцтва на Беларусі і гісторыю адной з найвялікшых трагедый XX ст. – Халакосту.

Па-чацвёртае, удзел у кіраванні адукацыйнай палітыкай і абмеркаванне зместу падручнікаў і сістэмы адукацыі ўвогуле, то бок не пера-

кладаць адказнасць на ананімных суб'ектаў Міністэрства адукацыі, якія пішуць праграмы і канцэпцыі, але браць удзел у абмеркаванні (гэта датычыцца ўсіх: і бацькоў, і настаўнікаў, і няўрадавых арганізацый).

У якасці высновы, прывядзем словы брытанскага філосафа Карла Попера, які ў сваёй знакамітай кнізе "Адкрытае грамадства і яго ворагі" пісаў пра тое, што не варта ставіць мэту збавіць сусвет, трэба пачынаць з самых маленькіх спраў, якія, на першы погляд, здаюцца неістотнымі. Выкладанне гісторыі – гэта, здавалася б, невялікая і звычайная справа, якая, аднак, можа перавярнуць сусвет.

### *Бібліяграфія*


1. Braham, L. R. Ed. (1987). *The treatment of the Holocaust in textbooks. The Federal republic of Germany, Israel, The United states of America.* N.-Y.: Columbia University Press.

2. Georg-Eckert-Institut für internationale Schulbuchforschung, URL (consulted 01.09.2011): http://www.gei.de.

3. Jaspers, Karl (1987). *Die Schuldfrage. Von der politischen Haftung Deutschlands. München.* Цыт па. Борозняк, А."ФРГ: волны исторической памяти" в Неприкосновенный запас, 2005, №2–3(40–41), URL (доступ 02.09.2011): http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/boro6-pr.html.

# "ПЕРЕСТРОЙКА" В КОЛЛЕКТИВНОЙ ПАМЯТИ БЕЛАРУСОВ: ОПЫТ УСТНО-ИСТОРИЧЕСКОГО ИССЛЕДОВАНИЯ

ИРИНА МАХОВСКАЯ
ИРИНА РОМАНОВА

***Аннотация:*** Данная статья посвящена изложению некоторых аспектов устно-исторического исследования, целью которого является изучение памяти об ожиданиях, восприятии и реальном опыте радикальных реформ второй половины 1980 – начала 1990-х (известных под общим названием "перестройка") жителей беларусской провинции.

***Ключевые слова:*** устная история, "перестройка", память, мифологическое сознание, постсоветская история, история Беларуси.

# PERESTROIKA IN THE COLLECTIVE MEMORY OF BELARUSIANS. EXPERIENCE OF AN ORAL HISTORY RESEARCH

***Abstract:*** The article presents several aspects of the oral history research focused on the study of memory about Belarusian countryside residents' expectations, perceptions and actual experience of the drastic reforms in the period of the late 1980s – early 1990s, known as perestroika.

***Keywords:*** Oral History, Perestroika, Memory, Mythological Consciousness, Post-Soviet History, History of Belarus.

Целью данной работы является изучение памяти об ожиданиях, восприятии и реальном опыте радикальных реформ второй половины 1980 – начала 1990-х (известных под общим названием "перестройка") жителей беларусской провинции. Фокус нашего исследовательского внимания направлен на эпоху "слома", потребовавшего отказа от привычных паттернов поведения и поиска новых способов адаптации и самопрезентации в стремительно трансформирующемся социуме.

Проект реализовывался методами *oral history.* Для выполнения поставленных задач нами разработан опросник, который задавал темы, а информанты сами наполняли его своими историями, эмоциями, оценками. Таким образом в общеисторическую канву вплетались личные смыслы и интерпретации личного опыта информантов.

В качестве информантов нашего исследования выступили люди 1940–1960-х годов рождения, поскольку представители именно этого поколения в 1970–1980-х годах составляли наиболее активную часть советского общества, вынужденную участвовать в воспроизводстве формы авторитетного дискурса (Юрчак, 2007). И именно эти люди наиболее остро испытали на себе социальные преобразования.

Территориально исследование коснулось всех областей Беларуси, но только провинции. В ходе интервьюирования опрошено 80 человек – жителей населённых пунктов не крупнее районного центра. Мы исходили из того, что жители больших городов обладают бо́льшими возможностями для маневрирования и адаптации к изменяющимся социальным условиям. С другой стороны, условия жизни в районном центре, посёлке и деревне вполне сопоставимы.

Анализируя память о перестройке, необходимо принимать во внимание, что воспоминания презентовались с учётом постперестроечного опыта. Состояние релятивной депривации, сменившееся состоянием фрустрации в начале 1990-х, когда люди оказались лишены зачастую элементарных материальных благ, во многом определяет сегодняшнее представление ими своих позиций и ожиданий.

Сегодняшние перестроечные нарративы с некоторой долей условности можно определить как "воспоминания об обманутых надеждах". Причём на фоне смысловой размытости характера ожиданий их конкретика особенно выразительна. Последствия перестройки артикулируются как претензии лично к Михаилу Горбачёву, их список достаточно короток, и по всем его пунктам наши информанты весьма единодушны. Общим местом являются интенции *"развалил экономику"*, *"развалил Советский Союз"* и *"антиалкогольный указ".* Эти наполненные ностальгическим пафосом нарративы явно носят мифологизированный привнесённый характер. В первую очередь обращает на себя

внимание абсолютная идентичность языковых конструкций, частные случаи массово описываются при помощи "готовой терминологии". Во-вторых, наблюдаются явный конфликт символических коннотаций и несоответствие декларативно воспринятых ностальгических слоганов реальным практикам наших информантов.

Во время проведения интервью мы неожиданно столкнулись с массовыми сдвигами в хронологии, "ошибками" в датировке перестройки. Начало перестройки во многих (слишком многих, чтобы отнести это явление к случайным ошибкам в памяти отдельных людей) рассказах относится на начало 1990-х годов. Вспоминает Татьяна Г.: *"В это время ещё нормально было. Тогда было полтора года декрета, в 1988 я вышла на работу. ... А потом пошла перестройка, ой, что там творилось тогда!"* Говорит Валентина М.: *"Просто, когда уже пошла перестройка, цех закрыли (в 1990 году), потому что он стал ненужным. Я 20 лет проработала. Перестройка началась – и всё".* Фаина М. отмечает: *"В 90-м году, когда умер мой муж Саша, всё и пошло, всё и началось. Перестройка в стране и у меня в семье".*

Как видим, "ошибка" не только в датировке, очевидно явное смысловое несоответствие: вопреки основному пафосу авторитетного дискурса, в собранных нами нарративах термин "перестройка" используется в связке с проявлениями экономического кризиса (невыплаты зарплат, закрытие цеха, потеря работы). Причина такой коллективной ошибки не в самом событии, а в том значении, которое было ему придано, и в отношении его к последующим событиям (Портелли, 2003: 216–218). Перестройка была воспринята как масштабное, важное, поворотное и судьбоносное событие (в данном случае неважно, с каким знаком). И в практиках коммеморации сильнейшее впечатление, произведённое перестройкой, потребовало привязки к соразмерным по масштабу социальным трансформациям. Как символ глобального переустройства жизни и как воплощение всего последующего опыта перестройка оказалась привязана не к мало повлиявшим на течение жизни политическим свободам, гласности и альтернативным выборам, а к изменившим окружающую действительность экономическим (в первую очередь) переменам, потребовавшим не только отказа от привычных паттернов поведения, но и значительных изменений паттернов мышления.

В памяти о событиях четвертьвековой давности весьма актуализированным является топик "развалили большую страну". День подписания Беловежского соглашения (8 декабря 1991 года) описывается в подробностях, причём характерно намеренное употребление уничижительных коннотаций в воспоминаниях о данном эпизоде, что, очевидно, является одним из основных способов нарративного пре-

одоления этого травматичного опыта. Глобальность и фатальность непродуманного и ошибочного решения подчеркиваются описанием неприглядной сцены его принятия, низведением встречи лидеров до уровня бытовой пьянки.

С другой стороны, большинство наших информантов не смогли припомнить день объявления независимости страны. На фоне подробного описания и ярко выраженных переживаний относительно распада СССР такой "провал в памяти" весьма показателен. В первом случае в воспоминаниях демонстрируется включённость в вопросы политической жизни страны, во втором – поясняются причины невключённости. Говорит рабочая Нина К.: *"Не помню. Я в этих политических вопросах не разбираюсь. Я как жила, так и живу".* Колхозница Нина Т. отмечает: *"За работай мы ничего не видели. Я пока не пошла на пенсию, я вообще никаких новостей не знала".* Учитель математики Лариса А. констатирует: *"Нет, не помню. Нет. Ну, прошло, да и прошло это время, нам, простым людям, как-то безразлично было".* Очевидно, что память о распаде СССР находится в актуализированном состоянии, тогда как память о логичном последствии распада – образовании нового государства – в латентном, не востребованном вызовами дня сегодняшнего.

Официальная власть воспроизводит ностальгический советский дискурс, предполагающий дистанцирование от "развала СССР" и связанного с этим экономического кризиса и возвращение советских смыслов и ценностей. Предлагаемая риторика легла на благодатную почву, была воспринята и вплетена в массовую коммуникацию. Но, как доказывают материалы интервью, только на уровне деклараций. Мифологичность ностальгического дискурса проявляется в очевидных несоответствиях реальным практикам.

В постсоветское время властный дискурс активно использовал риторику *"разделённых братских народов", "разорванных связей", "страданий старушки-матери, которая не может поехать к дочке в Москву"* в трансляции ностальгического пафоса темы о *"развале СССР".* Предлагаемая риторика нашла живой отклик у наших информантов, многие, сожалея о распаде Советского Союза, обращались к теме былого единства. Типичным для наших многочисленных бесед является такой диалог:

*"– Не было никаких границ, таможен. Можно было поехать, куда хочешь.*

*– Это сейчас можно поехать куда хочешь.*

*– Да, но деньги какие! Дорого как!"*

Тут мы вновь сталкиваемся с явным несоответствием транслируемого ностальгического дискурса реальным практикам. Сталкиваясь с нашей провокацией, информанты немедленно "уводили" беседу из

области "большой политики" в область повседневного потребления. Ностальгия о былом отсутствии границ показательна и тем, что многие из наших информантов, имевшие родственников в Польше, только после распада СССР получили возможность относительно регулярно с ними видеться.

Далее, примечательна используемая для выражения ностальгии географическая терминология. Языковая конструкция "поехать куда хочешь" предполагала картину мира исключительно в рамках границ СССР. Также показателен собирательный термин "юг". *"Куда угодно можно было поехать. Или там юг, этих не было проблем. Поехал да и поехал себе"* (Людмила С.). В нарративах понятие "юг" по-прежнему имеет значение "юг СССР". В то же время, когда речь идёт об отдыхе детей за границей, употребляются более конкретные географические названия: Болгария, Турция, Египет и т. д.

Не смотря на то что такое несоответствие деклараций и реальной действительности очевидно, информанты не видят в этом особой проблемы. Ностальгия по СССР – из области коллективных представлений. Это мифологическая реальность, существующая по иным законам, нежели реальность объективная, она не предполагает рефлексии, критики или реальных оснований, к ней не применимы законы формальной логики.

Духовное наследие советских времён сегодня оказывает мощное влияние на систему ценностей, поведенческие шаблоны беларусских граждан. В то же время в процессе адаптации к новым условиям существования выработались другие паттерны поведения и мышления, позволяющие эффективно использовать появившиеся в последние десятилетия ресурсы для улучшения качества жизни. Несмотря на декларативные лозунги о преимуществах СССР, информанты демонстрировали неготовность и нежелание вернуться к советской системе существования в целом.

### *Библиография*


1. Портелли, А. (2003). “Смерть Луиджи Трастулли. Память и событие”, в *Хрестоматия по устной истории.* Санкт-Петербург.

2. Ушакин, С. А. (1999). К*оличественный стиль: потребление в условиях символического дефицита,* URL (доступ 07.12.2009): http://www.nir.ru/sj/sj/sj3-4-99ush.html.

3. Юрчак, А. (2007). “Поздний социализм и последнее советское поколение”, *Неприкосновенный запас,* 2 (52), URL (доступ 07.12.2009): http://magazines.russ.ru/nz/2007/2/

# АДЛЮСТРАВАННЕ ДАСЯГНЕННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ Ў ПАДРУЧНІКАХ ПА АЙЧЫННАЙ ГІСТОРЫІ

ІНА СОРКІНА

***Анатацыя:*** Паказваецца, як у падручніках па гісторыі Беларусі для вучняў сярэдніх школ і студэнтаў ВНУ, выдадзеных у 1990–2000 гг., мянялася адлюстраванне падзей, звязаных з дасягненнем незалежнасці Беларусі. Для разгляду ўзятыя толькі вучэбныя дапаможнікі з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. У падручніках па айчыннай гісторыі яскрава адбілася эвалюцыя каштоўнасцей, прынятых у той або іншы перыяд ва ўладным дыскурсе.

***Ключавыя словы:*** гісторыя Беларусі, незалежнасць, палітыка памяці, падручнікі.

## BELARUSIAN INDEPENDENCE IN THE TEXTBOOKS ON NATIONAL HISTORY

***Abstract:*** The author demonstrates how the textbooks on history of Belarus for pupils and university students issued in 1990-2000 changed the reflection of the events associated with gaining independence of Belarus. Only the books stamped by the Belarusian Ministry of Education were analysed. The textbooks on national history vividly show the evolution of attitudes adopted in a particular period in the governmental discourse.

***Keywords:*** History of Belarus, Independence, Politics of Memory, Textbooks.

Выкарыстанне мінулага ў палітычных інтарэсах дзяржаўных уладаў стала звычайнай з’явай публічнага жыцця Беларусі. Інструменталізацыя гісторыі, незалежна ад нашага стаўлення да яе, робіцца ўсё больш вызначальнай рэальнасцю нашага часу.

Адным з галоўных інструментаў гістарычнай палітыкі ці палітыкі памяці, якая праводзіцца ў Беларусі пасля 1991 г., з’яўляецца ўздзеянне на гістарычную самасвядомасць народа праз вучэбныя дапаможнікі па айчыннай гісторыі. Змены ў іх змесце на працягу апошніх дваццаці гадоў паказваюць эвалюцыю дзяржаўнай палітыкі і памяці ў Беларусі.

Беларуская гісторыя, якая выкладаецца школьнікам, за адносна кароткі прамежак часу – каля 20 гадоў – радыкальна перапісвалася тры разы. Такая сітуацыя не можа не мець негатыўных наступстваў, асабліва ў дачыненні да аб’екта адукацыйнага працэсу, школьніка і студэнта, які аказваецца страчаным у полі ўзаемасупярэчлівых інтэрпрэтацыяў, а значыць – агістарычны. Пакажам гэта на прыкладзе аналізу адлюстравання ў падручніках па айчыннай гісторыі і ў памяці маладых беларусаў падзеяў, звязаных з дасягненнем незалежнасці Беларусі. Для разгляду ўзятыя толькі вучэбныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. У даследаванні выкарыстоўваліся высновы, зробленыя Таццянай Астроўскай у працы “Генеалогія гістарычнай памяці беларусаў у кантэксце адукацыйных практык”(2010).

У 1991 г. з мэтай распрацоўкі новай канцэпцыі гістарычнай адукацыі была ўтворана камісія пад кіраўніцтвам вядомага акадэмічнага гісторыка Міхася Біча. Пачынаючы з 1992/1993 навучальнага года, ва ўжытак пачалі ўводзіцца першыя постсавецкія дапаможнікі па гісторыі Беларусі (з бел-чырвона-белай вокладкай!), для якіх былі характэрныя спробы дэканструкцыі старых каланіяльных міфаў, канструявання новай ідэнтычнасці з арыентацыяй на дэмакратычныя прынцыпы і агульначалавечыя каштоўнасці.

Аўтарамі вучэбнага дапаможніка для 9 класа (1993 г.), у якім асвятляліся падзеі 1917–1992 гг., сталі Уладзімір Сідарцоў і Віталь Фамін. Апошняя глава мела назву “На шляху да суверэнітэту і незалежнасці”. Распачыналася яна характарыстыкай працэсаў дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця і фарміравання шматпартыйнасці. У параграфе, прысвечаным абвяшчэнню незалежнасці Беларусі, паказвалася ўзмацненне руху за нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт. Пры гэтым падкрэслівалася, што ва ўмовах, калі большасць насельніцтва рэспублікі выказалася на рэферэндуме ў сакавіку 1991 г. за ўваходжанне ў абноўлены СССР, “за поўную дзяржаўную незалежнасць Беларусі і адмову ад уваходжання ў Саюз з самага пачатку рашуча выступіў БНФ

і ўзначальваемая ім апазіцыя ў Вярхоўным Савеце, а таксама розныя плыні і групы беларускай інтэлігенцыі" (с. 300). Школьнікі мелі магчымасць прачытаць у гэтым падручніку імёны лідараў і актывістаў БНФ "Адраджэнне": Зянон Пазняк (паведамлялася пра яго навуковую ступень кандыдата мастацтвазнаўчых навук), Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Заблоцкі, Алег Трусаў, Валянцін Голубеў. Утварэнне дэмакратычнай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце ацэньвалася як "важны крок на шляху ўсталявання прынцыпаў парламентарызму ў яго дзейнасці". Адзначалася, што моцны рабочы рух, які разгарнуўся ў красавіку 1991 г., меў і палітычныя патрабаванні: "за дэмакратыю і справядлівасць, за паляпшэнне жыцця, за волю і свабоду Бацькаўшчыны, за поўнае пазбаўленне ад кіраўніцтва кампартыі" (с. 297). Распад СССР ацэньваўся пазітыўна. У храналогіі падзеяў устанаўлення дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь аўтары чамусьці не ўзгадалі дзень 25 жніўня 1991 г., калі Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце набыла сілу закона. Гаварылася аб вызваленні Мікалая Дземянцея і абранні Станіслава Шушкевіча на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета. На жаль, аўтары не зрабілі падагульнення аб велізарным гістарычным значэнні набыцця Беларуссю незалежнасці. Тым не менш, абвяшчэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь і пабудова дэмакратычнай дзяржавы ацэньваліся як заканамерная, неабходная і адназначна пазітыўная з'ява.

Першым школьным падручнікам незалежнай Беларусі быў наканаваны нядоўгі час выкарыстання ў навучальных установах.

Нанова напісаныя падручнікі па гісторыі Беларусі былі ўведзеныя ў 1996/1997 навучальным годзе. Разлом паміж гэтым і папярэднім пакаленнем падручнікаў быў відаць ужо па вонкавым афармленні: бел-чырвона-белую вокладку замянілі нейтральна зялёнай альбо карычневай.

Аўтарамі новага падручніка для 9 класа (1997 г.) выступілі зноў У. Сідарцоў і В. Фамін, а таксама С. Паноў, рэдактарам з'яўляўся М. Сташкевіч. Назва главы не змянілася ("На шляху да суверэнітэту і незалежнасці"), пачыналася яна з характарыстыкі эканамічнага становішча Беларусі ў другой палове 1980-х – першай палове 1990-х гг. З параграфаў, прысвечаных зменам у грамадска-палітычным жыцці і набыццю суверэнітэту, зніклі ўсе імёны змагароў за незалежную Беларусь. Параграф "Ад БССР да РБ. Набыццё суверэнітэту" асвятляў падзеі з 1990 па 1996 гг. Тут узгадваліся М. Гарбачоў, Б. Ельцын, С. Шушкевіч і В. Кебіч (як падпісанты "Белавежскага пагаднення"), але найбольшая ўвага надавалася асобе А. Лукашэнкі (звесткі пра яго змяшчаліся ў рубрыцы "Гістарычны партрэт", фота з прыняццем прысягі, падавалася інфармацыя пра рэферэндумы 1995 г. і 1996 г.). Адна з ілюстрацый паказвала выяву новаўведзенага пасля рэферэндуму 1995 г. герба

(праўда, змяшчалася і выява “Пагоні”). У тэксце параграфа прыводзіўся значны па аб’ёме фрагмент дамовы аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісанага 2 красавіка 1996 г. Тады як вытрымкі з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР (ад 27 ліпеня 1990 г.) падаваліся толькі ў дадатковым матэрыяле (дробным шрыфтам). Завяршаўся гэты параграф цытатаю са звароту А. Лукашэнкі да беларускага народа з нагоды падпісання дамовы аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, дзе гэтая дамова ацэньвалася як “здзяйсненне мараў народаў Савецкага Саюза, перш за ўсё славянскіх народаў, аб яднанні” (с. 166).

Да другога пакалення падручнікаў па гісторыі належыць і вучэбны дапаможнік па “Гісторыі Беларусі” для 11 класа пад рэдакцыяй Яўгена Новіка (2000 г.). Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі паказана як вынік распаду СССР, які ацэньваецца адмоўна. Падпісанты Белавежскіх пагадненняў абвінавачваюцца ў “ігнараванні волі сваіх народаў, якая была выказаная на рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г.”, “разбурэнні вялікай і магутнай дзяржавы”. Адзначаецца, што “гэты дзяржаўны пераварот быў здзейснены са згоды М. Гарбачова. На руінах СССР утварылася аморфная, нежыццяздольная СНД” (с. 183).

У цэлым, для апісання падзеяў, звязаных з набыццём незалежнасці Беларусі, у падручніках 1997–2000 гг. характэрныя лаканічнасць, дэперсаніфікацыя (няма згадак ні пра лідараў парламенцкай апазіцыі, якія змагаліся за суверэнітэт, ні першага кіраўніка незалежнай Беларусі), безацэначнасць (шкадаванне Я. Новіка з нагоды распаду СССР можна трактаваць як адмоўнае стаўленне аўтара да ўтварэння суверэннай Рэспублікі Беларусь). Абсалютна не акцэнтуецца ўвага на найважнейшых дакументах, скіраваных на ўмацаванне суверэнітэту рэспублікі, самым важным з якіх быў закон аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статуса канстытуцыйнага закона. Больш ўвагі надаецца выбарам першага Прэзідэнта і зменам, якія адбыліся ў краіне пасля іх, якія ацэньваюцца станоўча. Ствараецца ўражанне, што асноўная мэта параграфаў, прысвечаных станаўленню дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі – апраўдаць правільнасць і непазбежнасць палітычнага курсу А. Лукашэнкі.

Амаль тое ж самае можна сказаць і пра школьныя падручнікі, якія з’явіліся з 2002 г., у перыяд пабудовы ідэалогіі беларускай дзяржавы, звязанай з усведамленнем неабходнасці “барацьбы за розумы”, г.зн. выхавання індывіда, лаяльнага беларускай палітычнай сістэме. У параўнанні з папярэднімі падручнікамі ёсць некаторыя змены. Так, аўтары “Гісторыі Беларусі (1945–2005 гг.)” для 10 класа (2006 г.) В. Фамін, С. Паноў, Н. Ганушчанка на гэты раз не змясцілі выявы “Пагоні” – першага дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.

Падручнік для 11 класа (2009 г.) Я. Новік дапоўніў разважаннямі пра старанні апазіцыі разваліць СССР і сацыялістычны лад з дапамогай Захаду (с. 193). Галоўныя падзеі і дакументы, якія прывялі да афармлення дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, узгадваюцца, як правіла, без аніякіх пазітыўных канатацый. У падручніках, што выйшлі пад рэдакцыяй Я. Новіка, яны ўвогуле падаюцца як гістарычныя памылкі ці выкладаюцца ў "мадальнай стылістыцы шкадавання".

У 1998 г. пабачыў свет вучэбны дапаможнік з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь для студэнтаў ВНУ "Гісторыя Беларусі" (пад рэдакцыяй Я. Новіка і Г. Марцуля). Тут дасягненне незалежнасці Беларусі выкладалася ў той жа танальнасці, што і ў школьных падручніках, выдадзеных пад рэдакцыяй Я. Новіка. Акцэнтавалася ўвага на незаконнасці адхілення ад улады КПСС – КПБ, развалу СССР. У гэтым вінаваціліся "айчынная "дэмакратыя" разам з яе замежнымі "калегамі і сябрамі" (с. 385). Адзначалася, што "разгром КПСС і развал СССР адносяцца да ліку самых трагічных падзей сусветнай гісторыі" (с. 388).

Грыф Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь мае і вучэбны дапаможнік "История Беларуси" для студэнтаў ВНУ пад рэдакцыяй радыкальнага заходнерусіста, які адмаўляў асобнасць беларусаў як нацыі, Якава Трашчанка (ч. 2., 2005 г.). З імем Я. Трашчанка звязаная спроба ідэалагічных структураў цалкам замяніць "нацыянальна-дзяржаўніцкі" дыскурс выкладання гісторыі Беларусі на "заходнерускі". Другая палова 1980-х – пачатак 1990-х гадоў у падручніку Я. Трашчанка апісваюцца наступным чынам: "Ослабление власти и переросшая в подлинную антигосударственную вакханалию "гласность" пробудили таившиеся доселе деструктивные силы. Используя дезориентированную импульсивную молодежь, на авансцену вновь вылезли националисты... Эти господа, наследники коллаборационистов, решили, что пришло время их реванша... Народ поначалу безмолствовал" (с. 293–294). У вызначэнні храналогіі абвяшчэння суверэннай Беларусі дапускаецца фактаграфічная памылка: "После того как 8 декабря 1991 г. в Вискулях было объявлено о роспуске СССР, состоялось провозглашение суверенной Республики Беларусь". Парламенцкі перыяд гісторыі Беларусі Я. Трашчанок характарызуе як час "ашалелага прымусу", пераследу людзей па этнамоўнай прыкмеце. "И тут белорусский народ сказал свое слово. Он использовал едва ли не единственное благо новой действительности – право выбора на альтернативной основе" (с. 294). Далей аўтар усхваляе Лукашэнку і яго палітычны курс.

Такім чынам, гісторыя Беларусі ў тым выглядзе, у якім яна выкладаецца ў школьных падручніках, з'яўляецца індыкатарам сацыяльна-палітычных трансфармацыяў у грамадстве і транслята-

рам каштоўнасных установак, прынятых у той або іншы перыяд ва ўладным дыскурсе. Аўтары падручнікаў старанна імкнуцца адказаць на зменлівыя выклікі палітычнага кантэксту.

Апытанне студэнтаў, праведзенае аўтарам у пачатку верасня 2011 г. у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (колькасць апытаных – 150 чалавек), выявіла не толькі нізкі ўзровень гістарычных ведаў моладзі (напрыклад, 66 % першакурснікаў упэўнена адказалі, што першы кіраўнік незалежнай Беларусі – А. Лукашэнка, а 21 % апытаных лічаць, што Беларусь стала незалежнай у 1994 г.), але і недастатковае разуменне таго, што галоўнае дасягненне беларускай нацыі на яе гістарычным шляху – уласная дзяржаўнасць. 8 % студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта і 20 % студэнтаў 4 і 5 курсаў факультэта гісторыі і сацыялогіі лічаць, што Беларусь не мае шансаў развіцця як незалежная дзяржава.

Палітычная і культурная будучыня маладой Рэспублікі Беларусь не ў апошнюю чаргу залежыць ад успрымання нашай гісторыі, у тым ліку і ад усведамлення таго, што незалежнасць Рэспублікі Беларусь – гэта нашая найбольшая каштоўнасць, найбольшы здабытак і найвялікшае дасягненне, якое змяніла гісторыю.

***Бібліяграфія***

1. Астроўская, Т. (2010). Генеалогія гістарычнай памяці беларусаў у кантэксце адукацыйных практык. Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў, 2010. URL (доступ 20.05.2011): http://www.belinstitute.eu/index.php?option=com_content&view=article&id=759%3A2010-10-21-20-50-37&catid=4%3Arussiamain&Itemid=28&lang=be)

# БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІЯ КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ Ў КАНТЭКСЦЕ СТАЛІНСКАЙ ІДЭАЛАГЕМЫ “ДРУЖБА НАРОДАЎ”

**ЯРЫНА ЦЫМБАЛ**
**ВЯЧАСЛАЎ КАРАТКЕВІЧ**

***Анатацыя:*** У кантэксце сталінскай ідэалагемы “дружба народаў” былі выпрацаваны пэўныя формулы і рытуалы для беларуска-ўкраінскіх культурных сувязяў, у тым ліку тыдні і дэкады братніх культур і літаратур, творчыя сустрэчы, сацыялістычныя спаборніцтвы, выданне перакладных анталогій. У выніку ўніфікацыі і саветызацыі ўзаемадзеяння двух славянскіх народаў і літаратур, беларуска-ўкраінскія культурныя адносіны фармалізаваліся і страцілі нацыянальную глебу.

***Ключавыя словы:*** “Дружба народаў”, культурныя сувязі, ідэалагічная формула, нацыянальнае пытанне.

# BELARUSIAN-UKRAINIAN CULTURAL TIES WITHIN THE STALINIST IDEOLOGICAL CONSTRUCT OF THE “FRIENDSHIP OF PEOPLES”

***Abstract:*** Belarusian-Ukrainian cultural ties were channelled into specific formulas and rituals within the Stalinist ideological construct of the "friendship of peoples". It included week-long and ten-day festivals of fraternal cultures and literatures, artistic gatherings, socialist competitions, translation of anthologies, etc. Due to unification and Sovietization of the two Slavic cultures’ interaction, the Belarusian-Ukrainian cultural relations grew formalized and devoid of national ground.

***Keywords:*** Friendship of Peoples, Cultural Ties, Ideological Formula, National Issue.

Ідэалагему "дружба народаў" як прынцып існавання шматнацыянальнай дзяржавы Сталін вызначыў у 1935 годзе. Ужо да гэтага часу "добраахвотнае" аб'яднанне народаў у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік лічылася рэальнай праявай дружбы народаў, якая фарміравалася і ўмацоўвалася ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва, заснаванага на братэрскім супрацоўніцтве і ўсебаковай узаемадапамозе нацый і народнасцяў.

Асноўныя ідэалагічныя формы ўзаемадзеяння культур братэрскіх народаў у СССР былі выпрацаваны яшчэ да з'яўлення вядомай сталінскай метафары. Часткова гэтыя формы былі запазычаны з дасавецкіх культурных сувязей (напрыклад, асабістыя кантакты пісьменнікаў і перакладчыцкая дзейнасць), а таксама з першых савецкіх гадоў (удзел літаратурных і навуковых дзеячаў рэспублік у агульных мерапрыемствах, агляды літаратуры адной рэспублікі ў часопісах іншай і гэтак далей).

Нягледзячы на агульную ўніфікацыю і саветызацыю культурных сувязей, беларуска-ўкраінскія культурныя ўзаемаадносіны ў СССР мелі сваю спецыфіку. З аднаго боку, РСФСР, БССР і УССР – тры славянскія рэспублікі ў Савецкім Саюзе. З другога боку, у "сям'і братэрскіх народаў" беларусы і ўкраінцы з'яўляліся малодшымі братамі. З гэтай прычыны культурныя ўзаемаадносіны паміж беларусамі і ўкраінцамі першапачаткова будаваліся на роўных, у адрозненне ад адносін абедзвюх культур да культуры рускай, якая лічылася больш развітай і прагрэсіўнай. Менавіта руская культура прыняла ў адносінах да культур іншых рэспублік апякунскую культуртрэгерскую пазіцыю. Дружба народаў у сферы культуры развівалася па старой імперскай схеме, дзе вядучую ролю адыгрывала руская культура (як культура метраполіі), а беларуская і ўкраінская былі культурамі калоній. Змяніўся толькі змест гэтай схемы: ён стаў вызначацца класава-ідэалагічнымі фактарамі.

Разам з тым, ужо ў першыя гады панавання савецкай улады, у першай палове 1920-х гадоў, яшчэ нават да афіцыйнага зацвярджэння палітыкі карэнізацыі, беларускія і ўкраінскія палітычныя і культурныя эліты праводзілі больш-менш самастойную культурную палітыку. Не мелі поспеху, напрыклад, спробы аб'яднаць літаратараў усіх савецкіх рэспублік у адну арганізацыю пад кіраўніцтвам Усерасійскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў.

Да канца 1920-х гадоў беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемаадносіны актыўна развіваліся па-за межамі Масквы. Літаратурныя даведнікі і даследаванні пазнейшага савецкага перыяду, прысвечаныя беларуска-ўкраінскаму культурнаму сяброўству, у большасці сваёй замоўчваюць звесткі пра амаль прыватныя візіты пісьменнікаў у суседнія рэспублікі. Звычайна падаецца інфармацыя толькі пра афіцыйныя дэлегацыі і сустрэчы, у якіх прымалі ўдзел класікі савецкай літаратуры.

Цікавай формай ўзаемадзеяння з'яўляецца інфармаванне пра падзеі ў літаратурным і культурным жыцці ў іншай рэспубліцы. Так, у беларускім часопісе "Маладняк" пад рубрыкай "Хроніка" рэгулярна з'яўляліся звесткі пра Украіну. Пачынаючы з другой паловы 1920-х гадоў, "хронік" амаль не друкуюць і пазней яны наогул знікаюць. Да гэтага часу змяшчаліся і агляды ўкраінскіх выданняў у рубрыках "Кнігапіс" і "Бібліяграфія". У перыядычных выданнях таксама друкаваліся справаздачы пра падарожжы пісьменнікаў з Беларусі па Украіне і наадварот. Украінскія часопісы як асобных літаратурных арганізацый ("Плуг", "Вапліте"), так і агульнакультурныя ("Червоний шлях", "Життя й революція", "Всесвіт", "Глобус") пра падзеі ў культурным жыцці Беларусі інфармавалі часта і актыўна (нават, напрыклад, пра беларусізацыю мінскай міліцыі) у рубрыках "Хроніка" або ў раздзеле "Па СССР".

Пасля прыняцця пастановы Палітбюро ЦК УКП(б) "Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый" ад 23 красавіка 1932 года ўсе літаратурныя арганізацыі ў Беларусі і Украіне былі ліквідаваныя, а пісьменнікі арганізаваны ў адзін маналітны рэспубліканскі Саюз пісьменнікаў, падпарадкаваны Саюзу пісьменнікаў СССР. З таго часу асабістыя сувязі таксама ператварыліся ў афіцыйную цэнтралізаваную і значна фармалізаваную "дружбу народаў".

Адной з найбольш распаўсюджаных форм культурнага ўзаемадзеяння ў пачатку XX стагоддзя быў пераклад мастацкіх твораў. Акрамя значнай колькасці такіх перакладаў у перыёдыцы, у 1929 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве Украіны пад рэдакцыяй Сяргея Піліпэнкі выйшаў аб'ёмны альманах на ўкраінскай мове "Нова Білорусь". Складальнік запрасіў да ўдзелу ўкраінскіх пісьменнікаў з розных літаратурных арганізацый, што перакладалі з беларускай мовы.

Такія ўсеахопныя анталогіі дастаткова часта ствараліся і ў 1950–1960-х гадах, аднак прынцып іх складання і прыцягнення перакладчыкаў быў іншы. Да пачатку 1950-х гадоў для практычнага ўвасаблення ідэі дружбы народаў у рэспубліканскіх саюзах пісьменнікаў узнікла неафіцыйнае, але адобранае зверху размеркаванне абавязкаў па перакладах братэрскіх літаратур. Калі пісьменнік валодаў якой-небудзь іншай, акрамя роднай, мовай, то ён абавязкова працаваў менавіта з гэтай нацыянальнай літаратурай (напрыклад, Мікола Бажан перакладаў з грузінскай мовы, Паўла Тычына – з армянскай, Мікола Аўрамчык – з украінскай, Васіль Сёмуха – з літоўскай). Тых жа, хто мог перакладаць толькі з падрадкоўкамі, "замацоўвалі" за астатнімі літаратурамі, імкнучыся не дапускаць прабелаў. Такія анталогіі ствараліся адміністрацыйнымі метадамі: пісьменнікам проста раздаваліся арыгіналы твораў, якія тыя абавязаны былі перакласці

для выдання. Паколькі ўсе ўкраінскія пісьменнікі разумелі беларускую мову, для стварэння адпаведных анталогій і зборнікаў ангажыравалі многіх, незалежна ад ступені валодання імі мовай, іх літаратурнага дару і інтарэсаў.

Дастаткова позна выпрацавалася формула "творчыя сустрэчы", якая прадугледжвала розныя выступы і вечары, у тым ліку на вытворчасці. Па ўзоры творчых сустрэч узнікла такая форма культурнай дружбы народаў, як дні, тыдні, дэкады нацыянальных літаратур у іншых рэспубліках, а таксама алімпіяды мастацтваў. Разам з творчымі сустрэчамі і дэкадамі нацыянальных культур і літаратур да навацый рэалізацыі сталінскай "дружбы народаў" належыць такая форма культурнага ўзаемадзеяння, як сацыялістычныя дамовы і спаборніцтвы. Хоць сацыялістычнае спаборніцтва павінна было замяніць капіталістычную канкурэнцыю і дзейнічала паміж прадпрыемствамі, іх падраздзяленнямі, брыгадамі або асобнымі рабочымі, гэтая з'ява была хутка імплементавана ў сферу культуры, дзе не было колькасных параметраў для вымярэння вынікаў працы.

На працягу першай паловы XX стагоддзя назіраецца рэзкая змена форм культурных сувязяў беларусаў і ўкраінцаў. Калі ў 1920-х гадах на агульнасаюзным узроўні прадстаўнікі беларускай і ўкраінскай культур аб'ядноўваліся і супрацьпастаўлялі сябе гегемоніі расійскіх культурных арганізацый і асобных дзеячаў, абараняючы нацыянальныя культурныя інтарэсы, то ўжо з пачатку 1930-х у выніку партыйных пастаноў і агульнаабавязковай канцэпцыі сацыялістычнага рэалізму (а таксама не ў апошнюю чаргу і ў выніку масавых палітычных рэпрэсій), культурныя ўзаемаадносіны беларусаў і ўкраінцаў фармалізуюцца і паступова страчваюць нацыянальны каларыт. Фармулёўка сталінскай ідэалагемы "дружба народаў" супала з усталяваннем жорсткасці ў адносінах да культурнай палітыкі ў краіне ў цэлым.

Разам з тым, эвалюцыя форм савецкіх беларуска-ўкраінскіх культурных сувязяў у кантэксце ідэалагемы "дружба народаў" выразна дэманструе, чаму спробы стварыць нацыянальную па форме і пралетарскую па змесце культуру для двух народаў былі ад пачатку нерэальнымі, а таксама неабгрунтаванасць матрыцы культурных адносін, якая была навязана зверху і не мела пад сабой нацыянальнай глебы.

Пасля калапсу СССР беларуска-ўкраінскія сувязі былі пазбаўлены ідэалагічнага шалупіння і фармалізаваных рытуалаў і вярнуліся ў рэчышча, закладзенае яшчэ ў першыя гады савецкай улады – асабістыя сувязі, узаемныя пераклады, сумесныя культурныя акцыі. Найперш, гэта датычыць сферы мастацкай літаратуры, гуманітарных даследаванняў і ў меншай ступені – музыкі і тэатральнага мастацтва.

# МИНСК СОВЕТСКИЙ И ВИЛЬНЮС ЛИТОВСКИЙ: СОЗДАНИЕ "СОВЕТСКОЙ СТОЛИЦЫ" В СТАЛИНСКИЙ ПЕРИОД

**РАСА ЧЕПАЙТЕНЕ**

***Аннотация:*** В докладе исследуются вопросы влияния советской системы на урбанистику и архитектуру в начале – середине XX столетия. Ставится вопрос, почему и каким образом тоталитарные режимы изменяли облик городов (особенно столиц) и как впоследствии эти решения повлияли на образ жизни и самосознание нынешних горожан. Наиболее пристально проанализирован случай идеологической манипуляции столичными пространствами Минска и Вильнюса в двух соседних республиках.

***Ключевые слова:*** тоталитарная архитектура и урбанистика, сталинизм, урбанистический ландшафт, Вильнюс, Минск, (де)советизация.

# THE CREATION OF A "SOVIET CAPITAL CITY" IN STALIN'S PERIOD: THE CASES OF VILNIUS AND MINSK

***Abstract:*** All totalitarian regimes attempted to create homogenous and simple to read ideological text emboded in the urban lanscape. The paper compares and analyses the goals, general principles and results of the totalitarian Soviet urban design. In this context the massive postwar reconstructions of two capital cities – Vilnius and Minsk – are aligned as two analogous but at the same time rather different cases of totalitarian urban transformation. As for Minsk, the capital of Soviet Belarus was made as an Ideal Soviet City. It is quite strange that this project was realized not in Moscow. As for Vilnius, the capital of Soviet Lithuania, the research shows that the efforts to realize the same idea failed and this paper tries to give some answers why.

***Keywords:*** Totalitarian Architecture and Urbanism, Stalinism, Urban Transformation, Vilnius, Minsk, Desovietization, Sovietization.

Всем тоталитарным режимам XX столетия было свойственно стремление к радикальной трансформации своих городов. Интересно, что гигантские архитектурные проекты задумывали и внедряли, тем самым признаваясь "в любви к классике", чуть ли не все европейские диктаторы первой половины XX века, включая Адольфа Гитлера, Бенито Муссолини, Иосифа Сталина, позднее – Николае Чаушеску и пр. Таким образом, возникает вопрос, почему и каким образом тоталитарная власть изменяла облик городов (особенно столиц) и как впоследствии эти решения повлияли на образ жизни и самосознание нынешних горожан.

Следует отметить, что в публичном пространстве СССР особенно ярко отражалась попытка внедрения смысловой синхронизации, то есть желание везде утвердить единый коммунистической нарратив, не принимая во внимание местные культурные или исторические различия. При этом использовались такие идеологические сюжеты, как Октябрьская революция, основание советской власти, Ленин, Победа над фашизмом, руководящая роль Коммунистической партии и пр. В городах создавались моноперспективные, одномерные, ценностно единые "узлы символов", которые горожанам передавали ясные, несложные, однозначные идеологические сообщения с помощью различных хорошо продуманных визуальных, эстетических, технических, дискурсивных и других средств.

Тоталитарная идеология по-своему связала научный рационализм, популярные в те времена идеи прогрессивного урбанизма и утопическое видение будущего мира. В рамках этой идеологии на первый план выходила роль архитектуры как надёжного средства социальной инженерии. Запланированные изменения публичного пространства имели целью переработку восприятия, привычек, поведения и мышления людей.

Удалось ли какому-либо режиму реализовать на практике модель тоталитарного города? По мнению многих исследователей, к идеалу такого советского города приближается лишь столица бывшей Беларусской ССР. Даже в Москве не удалось тотально претворить в жизнь подобный замысел. В чём же заключается исключительность Минска?

Минск был сознательно спроектирован и воссоздан как идеальный утопический город. Послевоенная реконструкция, потребовавшая почти полного сноса исторической городской застройки, превратила его в трёхмерную декорацию сталинской пропаганды. Но в действительности мечта так и осталась миражом. Иллюзорность величия города нетрудно обнаружить, зайдя во внутренние дворы прекрасных дворцов, предназначенных для простого народа. Контраст пышных парадных фасадов и убогости неоштукатуренных стен внутренних дворов сразу бросается в глаза. Преобладание такой пустотелой иллюзорной архи-

тектуры в Минске британский исследователь визуальной культуры Бенджамин Коуп полушутя назвал "призрачным классицизмом" (Коуп, 2008).

В отличие от Минска, столица соседней Литовской ССР – Вильнюс – хотя и претерпела после войны кое-какие изменения, тем не менее сумела (со сравнительно небольшими потерями) сохранить не только свой старый город, но и реализовать мечту межвоенного литовского общества о возврате потерянной "вечной столицы". Возврате не только физическом или политическом, но и духовном. Парадоксально, но именно советская власть помогла реализации чаяний о литуанизации города и его жителей. Поэтому возникает важный вопрос: какие же причины повлияли на то, что в соседних столицах оказалась такой разной "дозволенность национального"?

Если в сталинскую эпоху переработка "на советский лад" двух столиц союзных республик дала такие разные результаты – советизацию Минска и литуанизацию Вильнюса, – то возникает резонный вопрос: явилось ли это отражением разного подхода советского режима к беларусскому и литовскому народам? Исследования послевоенной истории показывают, что советская власть действительно делала кое-какие уступки литовскому национализму, но бескомпромиссно отвергала схожие желания беларусов. Тем более что ещё в межвоенное время, после короткого эпизода "коренизации", любые мечты или чаяния о самостоятельной государственности Беларуси и развитии её аутентичной национальной культуры пресекались очень жёстко.

Следует, однако, заметить, что литуанизация Вильнюса стала возможной лишь при совпадении нескольких очень важных внешних и внутренних обстоятельств. Это и почти полное уничтожение влиятельной и многочисленной еврейской общины, и принудительная репатриация польского населения, что позволило стереть с демографической и семантической карты города память и культурные знаки этих общин. С другой стороны, сравнительно неинтенсивная индустриализация позволила замедлить приток в город русскоязычного населения (чего не удалось избежать Риге и Таллинну). Тем самым советская власть создавала условия для обоснования в столице этнических литовцев (Weeks, 2008).

Наконец, можно говорить о своеобразном компромиссе между коммунистами и литовской интеллигенцией – за подержку советской власти ей было дозволено сохранять и пестовать национальную культуру. Крайне важно, что в самом начале этого процесса разрешалось преподавание на литовском языке в Вильнюсском университете. Это явилось гарантией возрастания численности местной интеллигенции.

И ещё один немаловажный фактор связан с возможностью проявления специфически литовского национализма. Балтский язык и латиница позволили сохранить уникальную этническую идентичность и тем самым затруднить русификацию, на что, к сожалению, не могли рассчитывать представители славянских народов, пользующиеся кириллицей (Snyder, 2003).

Что касается советизации облика публичного пространства столиц, то разница между двумя столицами велика также по нескольким важным причинам. Вильнюс в меньшей степени, чем Минск, пострадал от военных действий. Основной идеологический "символический узел" – площадь Ленина (ныне Лукишкю) – было решено создавать за пределами старого города, что спасло это пространство от радикальных переработок и приспособлений. Не были реализованы и другие крупные замыслы сталинских архитекторов по обновлению и модернизации центра города. На отказ от них или значительное смягчение изначальной идеи создания широких проспектов и транспортных трасс, которые должны были пересечь старый город, повлияла и более сильная, нежели в Беларуси, установка архитекторов на сохранение урбанистического наследия. Для сравнения: реставрационные мастерские, занявшиеся охраной архитектурных памятников, в Литве были созданы уже в 1950 году, тогда как в Беларуси – лишь в 1969 году. Таким образом, в Минске, в отличие от Вильнюса, при реализации радикальной перестройки не смогли прибегнуть к весомым юридическим и административным рычагам, а также опереться на позицию специалистов или мнения жителей.

В Вильнюсе, как и в Риге, и Таллинне, установка на сохранность исторических и архитектурных особенностей старого города в скором времени позволила начать подготовку проекта его реконструкции. И в результате столица Литовской ССР не была превращена в единый, идеологически однозначный советский ландшафт.

В истории столицы Беларусской ССР переломными можно считать 1953–1959 годы, когда внедрялась программа тотального освобождения бывшего урбанистического пространства для создания образцового социалистического города. После этого в Минске остались лишь незначительные фрагменты и отдельные здания старого города, диссонирующие с новой тканью идеологического текста. Таким образом, Минск сознательно и намеренно создавался как гомогенный социополитический конструкт – "ворота в Москву", ведущие к символическому центру коммунистической утопии.

Обобщая, можно предположить, что во многом сохранившийся советской облик беларусской столицы имел значение для так и не состо-

явшейся десоветизации общества после распада СССР. И это повлияло на специфику постсоветского беларусского политического проекта в сравнении с соседними демократическими странами. Созданные тоталитарным режимом урбанистические пространства выдержали испытание временем и в эпоху перелома превратились в декорации для сцены уже новой – авторитарной – политической драмы.

***Библиография***

1. Коуп, Б. (2008). "Призраки Маркса бродят по Минску по следу Деррида" (с. 498–521) в *Белорусский формат: невидимая реальность.* Вильнюс: ЕГУ.

2. Snyder, T. (2003). *The Reconstruction of Nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus,* 1569–1999. Yale University Press.

3. Weeks, T. R. (2008). "Remembering and Forgetting: Creating a Soviet Lithuanian Capital. Vilnius 1944–1949", *Journal of Baltic Studies,* 39, 4: 517–533.

# БЕЛАРУСКАЯ ВЕКСІЛАЛАГІЧНАЯ СПАДЧЫНА І ПРАБЛЕМА САМАВЫЗНАЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ Ў ПОСТСАВЕЦКІ ПЕРЫЯД: СУТЫКНЕННЕ НЕАСАВЕЦКАГА І НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДЫСКУРСАЎ

**АНДРЭЙ ШУЛАЕЎ**

***Анатацыя:*** Артыкул прысвечаны праблеме вексілалагічнай спадчыны Рэспублікі Беларусь як крыніцы для разумення беларускай постсавецкай палітычнай сітуацыі. Аўтар дае ўводзіны, дзе гаворыць пры сутнасць вексілалагічнай дысцыпліны і яе даследчы аб’ект. Далей аўтар прапануе для абмеркавання распрацаваную ім асабіста мадэль практыкаў дэвальвацыі і рэвальвацыі вексілалагічнай спадчыны, праводзіць параўнанне вышэйзгаданай мадэлі з сучаснай практыкай у Рэспубліцы Беларусь.

***Ключавыя словы:*** вексілалогія, сцяг, спадчына, дэвальвацыя, рэвальвацыя, семіётыка.

# BELARUSIAN VEXILOLOGIC HERITAGE AND THE PROBLEM OF SELF-DETERMINATION OF THE BELARUSIAN NATION IN THE POST-SOVIET PERIOD: COLLISION OF NEOSOVIET AND NATIONAL CONCEPTIONS

***Abstract:*** The article deals with the problem of vexilologic heritage of the Republic of Belarus as the source of understanding of Belarusian post-Soviet political situation. The author mentions the essence of vexilological discipline and its research object. Then the author proposes his own model of devaluation and revaluation practices of vexilologic heritage, compares it with today’s practice in the Republic of Belarus.

***Keywords:*** Vexilology, Flag, Heritage, Devaluation, Revaluation, Symbolism.

У артыкуле разглядаюцца агульныя заканамернасці і практыкі ўзаемадзеяння нацыянальнага і неасавецкага палітычных дыскурсаў у галіне вексілалагічнай спадчыны ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь. Панятак "спадчына" тут і надалей ужываецца ў шырокім сэнсе як праблемнае поле, якое ўключае сукупнасць аб'ектаў, а таксама розныя формы і віды ўзаемадзеяння гэтых аб'ектаў.

Вексілалогія – спецыяльная навуковая гістарычная дысцыпліна, якая ставіць за мэту вывучэнне і аналіз сцягоў, а таксама аб'ектаў, блізкіх да іх па функцыях (вексілоідаў – продкаў сучасных сцягоў, транспарантаў, сігнаў (геральдычная або іншая скульптурная кампазіцыя на тронку з функцыямі сцяга), вымпелаў і іншае), а таксама выяваў вексілалагічных аб'ектаў на прадметах мастацтва, комплексу ўяўленняў дачынна сцягоў або спадарожных да іх рэчаў, комплексу традыцыяў і рытуалаў. У прапанаванай працы ў якасці аб'екта даследавання разглядаецца вексілалагічная спадчына, то бок корпус гэтак званых вексілалагічных аб'ектаў.

Дзеля вырашэння пастаўленай задачы быў праведзены комплексны аналіз дзейных сусветных практыкаў дачынна вексілалагічных аб'ектаў, вынікі якога былі зведзеныя ў адмысловую мадэль. Пры стварэнні мадэлі практыкі былі выдзеленыя ў два асноўныя сегменты:

- практыкі дэвальвацыі вексілалагічнай спадчыны;
- практыкі рэвальвацыі вексілалагічнай спадчыны.

Пад практыкамі рэвальвацыі разумеюцца мерапрыемствы палітыкі памяці, скіраваныя на падвышэнне грамадска-палітычнай значнасці аб'екта, і наадварот, практыкі дэвальвацыі скіраваныя на паніжэнне такой значнасці і на супрацьдзеянне рэвальвацыі. Да практыкаў рэвальвацыі варта аднесці наступныя: легальная і нелегальная практыка ўжытку сцяга як такая, вексілалагічная творчасць (стварэнне розных па характары вексілалагічных аб'ектаў на базе пэўнага сцяга), тыражаванне элементаў пэўнага сцяга на невексілалагічных аб'ектах, ганараванне сцяга, інтэрпрэтацыя (пошук навукова абгрунтаваных звестак пра гістарычныя карані, гісторыю і семіётыку сцяга), постінтэрпрэтацыя (від творчасці, які ставіць за мэту, з аднаго боку, стварыць міфалагічны вобраз, а з іншага – інтэрпрэтаваць і растлумачыць семіётыку розных элементаў ужо існага сцяга), сцвярджэнне сцяга за кошт іншага, навязванне станоўчых асацыяцыяў у масавай свядомасці адносна сцяга. Да практыкаў дэвальвацыі варта аднесці: адмову ад ужытку як практыку, ганьбаванне (у тым ліку графіці на сцягу, парушэнне цэласнасці, знішчэнне), дэканструкцыю (практыка разбурэння міфалагічнага вобразу вексілалагічнага аб'екта), практыкі падмены пэўнага сцяга на іншы, навязванне адмоўных асацыяцыяў у масавай свядомасці адносна сцяга.

Далей быў праведзены збор і аналіз наяўных крыніцаў па сучас-

най беларускай вексілалагічнай спадчыне. Збор праводзіўся ў медыя і віртуальнай прасторы па наступных крытэрах: а) афіцыйныя крыніцы, такія, як артыкулы і каментары ўпаўнаважаных па дадзеным пытанні дзяржаўных службоўцаў у дзяржаўных газетах і ў дзяржаўных (ведамасных) інтэрнэт-рэсурсах, на беларускіх тэлеканалах; б) больш шырокая выбарка ў беларускім сегменце медыя прасторы (дзяржаўным і недзяржаўным перыядычным друку), віртуальнай прасторы (перадусім у сацыяльных сетках). Выбарка рабілася па дзвюх катэгорыях: папершае, выяўленчыя крыніцы з дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь, нацыянальным бела-чырвона-белым сцягам, вытворнымі ад іх варыянтамі інтэрпрэтацыі і пост-інтэрпрэтацыі; па-другое, наратыўныя крыніцы з апісаннем вышэйзгаданых вексілалагічных аб'ектаў, іх элементаў і дэталяў. Сабраны матэрыял падвяргаўся параўнаўчаму, структурнаму і тыпалагічнаму аналізу з мэтаю вызначыць наяўнасць розных дыскурсіўных групаў у аспекце вексілалагічнай дысцыпліны, акрэсліць іх тэндэнцыі і спецыфіку паводле разгледжаных прыкладаў. Праведзеныя даследаванні дазволілі казаць пра наяўнасць двух асноўных антаганічных па форме дыскурсаў у беларускай вексілалогіі – неасавецкага і нацыянальнага. Кожны з дыскурсаў мае акрэсленыя формы, змест і палі функцыянавання, што дазваляе правесці аналіз іх спецыфікі на аснове прапанаванай вышэй мадэлі.

Нацыянальны дыскурс рэпрэзентаваны бел-чырвона-белым сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі, прынятым 5 жніўня 1918 г., наноў прынятым 19 верасня 1991 г. Неасавецкі дыскурс рэпрэзентаваны чырвона-зялёным з арнаментам сцягам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, прынятым 25 снежня 1951 г., наноў прынятым, хоць і з сур'ёзнымі зменамі, на рэферэндуме Рэспублікі Беларусь 7 чэрвеня 1995 г.

Вынікі параўнаўчага аналізу на базе прапанаванай вышэй мадэлі дазваляюць сцвярджаць, што кожны з дыскурсаў базуецца на прынцыпова рознай гістарыяграфічнай канцэпцыі і, адпаведна, на розных палітычных праектах развіцця краіны.

Кажучы больш дэталёва пра неасавецкі дыскурс у беларускай вексілалогіі, варта зазначыць, што ў яго межах рэалізуюцца асцярожныя памкненні замацаваць у масавай свядомасці станоўчы імідж чырвона-зялёнага сцяга з дапамогай яго афіцыйнага статуса, прычым асноўны ўпор робіцца на асацыяванне яго з такімі вобразамі як дзяржава Рэспубліка Беларусь, гісторыя (перадусім савецкая), спадчына Другой сусветнай вайны, спартовыя дасягненні, беларускі народ, беларуская моладзь, беларускі прэзідэнт, беларуская прырода, хрысціянская і дахрысціянская рэлігійная спадчына.

Кажучы пра нацыянальны дыскурс у беларускай вексілалогіі, трэба сказаць, што практыкі рэвальвацыі адносна нацыянальнага бела-чырвона-белага сцяга карыстаюцца з такіх вобразаў, як дзяржава Рэспубліка Беларусь, гісторыя (перадусім дасавецкая), еўрапейскія каштоўнасці, спартовыя дасягненні, беларускі народ, беларуская моладзь, хрысціянская і дахрысціянская рэлігійная спадчына. Праз адсутнасць афіцыйнага статуса ў нацыянальнага сцяга яго прыхільнікі вымушаныя выкарыстоўваць альтэрнатыўныя палі дзейнасці.

Практыкі дэвальвацыі адносна чырвона-зялёнага афіцыйнага сцяга карыстаюцца з наступных асацыяцыяў: дыктатура, савецкае мінулае (перадусім, эканамічны застой і рэпрэсіі), адмоўная “народная” інтэрпрэтацыя семіётыкі сцяга як “захад над дрыгвой”, семіётыкі элементу арнаменту на сцягу як адмысловага народнага пахавальнага арнаменту.

Практыкі дэвальвацыі адносна бела-чырвона-белага нацыянальнага сцяга карыстаюцца з асацыяцыі яго з калабарацыяністскім рухам на Беларусі падчас Другой сусветнай вайны, рызыкамі сусветнай глабалізацыі, адмоўнай “народнай” інтэрпрэтацыі семіётыкі як “сала-мяса-сала”, асноўным жа кірункам дэвальвацыі сцяга з’яўляецца яго поўнае ігнараванне на ўсіх узроўнях.

**Вынікі**

Адносна неасавецкага дыскурсу адзначым наступнае:

1) у імкненні легітымізаваць афіцыйны сцяг у свядомасці розных сацыяльных, рэлігійных і іншых групаў насельніцтва шырока ўжываюцца вельмі супярэчлівыя постінтэрпрэтацыі семіётыкі ягоных элементаў, якія фіксуюцца перадусім у праграмных артыкулах геральдычнай рады пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, у выступленнях і афіцыйных каментарах прадстаўнікоў галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення, рэпартажах па дзяржаўных беларускіх тэлеканалах (сярод абраных прыкладаў: кніга "Герб и флаг Белорусской державы" (Скобелев, 1997), рэпартаж А. Крывашэева па "Беларускім тэлебачанні" з нагоды Дня дзяржаўнага герба і сцяга Рэспублікі Беларусь (Кривошеев, 2009), артыкулы ў перыядычным друку і матэрыялы канферэнцыі геральдычнай рады пры ППРБ “Развитие белорусской геральдики в Республике Беларусь. Истоки белорусской символики” (Геральдический совет…, 2009):

- (зялёны колер) ад пакутаў Хрыста, адначасова ад святочных хрысціянскіх вербачак у храмах і адначасова ад дахрысціянскай Маці сырой зямлі;
- (чырвоны колер) ад харугваў Вялікага Княства Літоўскага, адначасова ад дамінуючага колеру Савецкага саюза;
- (арнамент) ад мамантавага біўня, народнага арнаменту, сімвалічнай

малітвы аб хлебе.

2) сцяг на афіцыйным узроўні ўжываецца дэ-факта ў пяці розных варыянтах, пры тым, што цяжка вызначыць функцыянальную заканамернасць для таго ці іншага з іх:

- дзяржаўны сцяг БССР узору 1951-1991 гг.;

- дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь згодна з Палажэннем аб Дзяржаўным гербе і Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь ад 7 ліпеня 1995 г. (Палажэнне…), дзяржаўным стандартам СТБ 911–2008 "Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь. Агульныя тэхнічныя ўмовы" (Дзяржаўны стандарт…);

- варыянт дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, але з элементамі арнаменту (чырвоныя і белыя палосы з аднаго ці з двух бакоў), ўзятымі са сцяга БССР узору 1951–1991 гг.;

- варыянт дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, на якім чырвонае палотнішча з зялёнай паласой змененыя на зялёнае палотнішча з чырвонай паласой адпаведна (Фотафакт…, 2011);

- нарэшце, вывешванне перагорнутага дагары нагамі дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, прычым уражлівая распаўсюджанасць такіх прэцэдэнтаў, на думку аўтара, не дазваляе спісаць гэтыя выпадкі адно на спантанныя памылкі, але прымушае бачыць у іх заканамернасць (Глыбоцкі Воўк…, 2011).

Наяўнасць вялікай колькасці варыянтаў афіцыйнага сцяга ў сукупнасці з супярэчлівымі постінтэрпрэтацыямі дазваляе сцвярджаць, што апошні з'яўляецца не эталоннай, але гэтак званай адаптаванай выявай, практыка і форма ўжывання якой залежаць, сярод іншага, ад палітычнай кан'юнктуры. Разам з тым, зусім нечакана вышэйпералічанае прыводзіць да высновы аб нежаданні росту папулярнасці афіцыйнага сцяга з боку прадстаўнікоў уладных колаў, бо той, мяркуецца, нават пры сваёй підавочнай прывязцы да дзейнай улады можа стаць сродкам кансалідацыі беларускага грамадства для звяржэння апошняй.

Што датычыць нацыянальнага дыскурсу, можна адзначыць большую актыўнасць і крэатыўнасць у прасоўванні пазітыўнага ўспрыняцця бела-чырвона-белага сцяга, што часткова кампенсуе адсутнасць магчымасці дзейнічаць на легальным узроўні. Разам з тым, прыхільнікі нацыянальнага дыскурсу, наўмысна ці не, ігнаруюць шэраг тэм (да прыкладу, ужо згаданую тэму калабарацыянізму падчас Другой сусветнай вайны), што не дазваляе ім дасягнуць поўнага поспеху.

Агулам варта адзначыць, што за апошні час з'явіліся прэцэдэнты своеасаблівага і з пэўнымі агаворкамі, але збліжэння вобразаў нацыянальнага і неасавецкага сцягоў пад лозунгамі: "Мы адзін народ", што найчасцей сустракаецца ў беларускім сегменце інтэрнэт-прасторы, перадусім

у сацыяльных сетках (Сацыяльная..., 2010). Сярод такіх прыкладаў можна згадаць прапанаваны грамадзянскай ініцыятывай "Гавары праўду" гэтак званы "беларускі брэнд" (Ахмач, 2011). Дадзеная практыка – спрэчная з розных пунктаў гледжання і, як найхутчэй, збольшага стыхійна-рэфлексійная, чым аналітычна-канцэптуальная, да таго ж неабходна сказаць, што такое набліжэнне нельга разглядаць сур'ёзна хоць бы з прычыны розных афіцыйных статусаў разглядаемых вексілалагічных аб'ектаў.

Вышэйпрыведзеныя матэрыялы сведчаць пра важнае значэнне вексілалогіі для разумення сучасных падставовых палітычных тэндэнцыяў, вексілалагічныя аб'екты і практыкі павінны вывучацца і асэнсоўвацца на такім жа ўзроўні, як і іншыя маркёры грамадска-палітычных працэсаў.

***Бібліяграфія***


1. Ахмач, Александр (2011). "Belarusian's "брэнд": "К чему стремимся – о том и поем..." (окончание)", URL: (доступ 08.01.2012) http://zapraudu.info/belarusian's-brend-k-chemu-stremimsya-–-o-tom-i-poem-okonchanie/

2. Геральдический совет при президенте РБ. В основе орнамента официального флага лежит бивень мамонта, URL: (доступ 23.05.2009). http://www.moyby.com/news/5474/

3. Глыбоцкі Воўк (2011). Фотафакт. Сцяг дагары нагамі на глыбоцкай пракуратуры, URL: (доступ 23.10.2011) http://westki.info/blogs/12284/fotafakt-sciah-dahary-nahami-na-hlybockay-prakuratury

4. Дзяржаўны стандарт Рэспублікі Беларусь СТБ 911–2008 "Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь. Агульныя тэхнічныя ўмовы". Мінск: Дзяржстандарт.

5. Кривошеев, А. (2009). День государственного герба и флага, передача "В центре внимания" на Первом государственном телеканале от 08.05.2009 г. URL (доступ 23.10.2011) http://www.youtube.com/watch?v=fcwRXgYbXy4&feature=player_embedded

6. Палажэнне аб Дзяржаўным гербе і Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь, зацверджанае загадам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 ліпеня 1995 года за № 214

7. Сацыяльная сетка Укантакце. Асноўны альбом суполкі "Бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня - нашыя сымбалі!", URL: (доступ 03.08.2010) http://vkontakte.ru/album-133688_968985#/photo-133688_84170125

8. Скобелев, Э. М. (1997). *Герб и флаг Белорусской державы.* Мінск: Полымя.

9. Фотафакт. Дык чырвона-зялёны ці зялёна-чырвоны? З пошты Рэдакцыі стэнд з наглядная агітацыяй адной з мінскіх трыкатажных фабрык URL: (доступ 15.07.2011) http://nn.by/?c=ar&i=57474

Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Arche* journal (Belarus)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus)
Konrad Adenauer Stiftung (Germany)
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus)
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

*Працоўныя матэрыялы Першага Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, што адбыўся 23–25 верасня 2011 года ў Коўне, Літва. Тэксты прысвечаны актуальным даследаванням у галіне беларускай гісторыі, палітыкі, грамадства і культуры.*

*Working papers of the First International Congress of Belarusian Studies, which was held on September 23–25, 2011 in Kaunas, Lithuania. The texts cover topical research on Belarusian history, politics, society and culture.*

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58